

# КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

№9(107)

1 жніўня 2013 Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь

# ЛЕПШЫЯ ЗНАЎЦЫ ПАЎСТАННЯ КАЛІНОЎСКАГА

Сяржук АРЖАНЦАЎ

***У ліпені сталі вядомы вынікі конкурсу “Лепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага”. На першым этапе ён праводзіўся як інтэрнэт-віктарына, у якой маглі прыняць удзел усе жадаючыя. А ўжо ў фінале ўдзельнічалі толькі 10 канкурсантаў, адказаўшых на ўсе пытанні віктарыны.***

Інтэрнэт-віктарына складалася з 30 пытанняў, якія падрыхтавалі гісторыкі і даследчыкі паўстання 1863-1864 гадоў. На гэтым першым этапе агулам узялі ўдзел каля 600 чалавек з усёй Беларусі. І вось 29 чэрвеня ў офісе Руху ”За Свабоду” адбыліся фінал і суперфінал конкурсу “Лепшы знаўца паўстання Кастуся Каліноўскага”. Сюды запрасілі дзесяць пераможцаў, якія здолелі адказаць на ўсе папярэднія пытанні. Усе 10 фіналістаў атрымалі па кнізе пра Каліноўскага і настольную гульню “Паўстанцы”.

Фінальны тур складаўся з пісьмовага тэсту, па выніках якога вызначыліся тры суперфіналісты. У фармаце “Брэйн-рынгу” яны разыгралі між сабой галоўныя прызы — планшэт і букрыдары. Першае месца заваяваў Васіль Герасімчык з Гродна, другое — Павел Абламскі з Брэста, трэцяе — Алесь Лапо з Клімавічаў, які жыве зараз у Нясвіжу. Клімаўчанін Алесь Лапо невыпадкова стаў адным з найлепшых знаўцаў паўстання Кастуся Каліноўскага. Ён скончыў гістарычны факультэт БДУ, атрымаў званне магістра гістарычных навук. Сёння паспяхова займаецца кінадакументалістыкай, працуе ў вядомым Нясвіжскім замку.



“Конкурс — адзін з элементаў святкавання памятных дат, звязаных з 150-мі ўгодкамі паўстання Кастуся Каліноўскага, — адзначыў для БелаПАН член аргкамітэта "Года Кастуся Каліноўскага" Юрась Губарэвіч. — Мы вельмі ўсцешаныя тым фактам, што вялікая колькасць маладых людзей адгукнулася і прыняла ўдзел у першай частцы конкурсу. Шмат хто з удзельнікаў конкурсу набраў досыць вялікі ўзровень балаў. Гэта дазваляе сказаць, што тэма паўстання ў Беларусі не забытая, што ёсць моладзь, якая цікавіцца тым перыядам мінулага. Тэма конкурсу дала магчымасць папулярызаваць саму падзею, пашырыць веды пра паўстанне сярод наведвальнікаў інтэрнэта, што само па сабе важна для гістарычнага, патрыятычнага выхавання маладога пакалення беларусаў".

# САЛІДАРНАСЦЬ З ПАЛІТВЯЗНЯМІ.

**КЛІМАВІЧЫ:**

Актывісты «Гавары праўду» з Клімавіцкага раёна даслалі лісты падтрымкі беларускім палітычным і грамадскім дзеячам, якія знаходзяцца ў зняволенні. Акцыя адбылася ў межах інфармацыйнай кампаніі «Тыдзень салідарнасці з палітвязнямі». Гэта ўжо не першы раз, калі клімаўчане пішуць словы падтрымкі беларускім палітвязням:

***— Крыху раней мы даслалі лісты падтрымкі беларускім палітвязням Алесю Бяляцкаму, Зміцеру Дашкевічу і Паўлу Севярынцу, ну а 10 ліпеня адправілі лісты салідарнасці Мікалаю Статкевічу, Эдуарду Лобаву і Яўгену Васьковічу, — патлумачыў свой учынак адзін з актывістаў Аляксандр Балобін. — Наогул, мы стараемся рэгулярна дасылаць з Клімавіцкага раёна лісты палітвязням, а з некаторымі з іх ужо стала перапісваемся. Сваімі лістамі спрабуем неяк падтрымаць палітвязняў, паведамляем ім нейкія навіны з грамадскага жыцця. Яны звычайна дасылаюць нам адказы. Лічу, што падтрымліваць палітвязняў у тых складаных умовах, у якіх яны зараз знаходзяцца — гэта наш грамадзянскі абавязак.***

**БЯЛЫНІЧЫ:**

Бялыніцкі журналіст Барыс Вырвіч атрымаў ліст ад палітвязня, кіраўніка Праваабарончага цэнтру “Вясна” Алеся Бяляцкага. Палітвязень падзяліўся сваімі развагамі наконт навінаў з жыцця дэмакратычнай суполкі Магілёўскай вобласці, а таксама распавёў пра сваё жыццё ў бабруйскай калоніі.

“Улетку добра не толькі на волі, але і тут не пагана, — піша Алесь Бяляцкі. — Часу вольнага ў мяне няшмат, але я не бядую, так ён хутчэй пралятае, ды і я яшчэ імкнуся штосьці зрабіць карыснага. Вельмі мяне цешыць, што ідзе актыўнае вяртанне і засваенне нашай гісторыі. Вось і замак у Быхаве хоць троху давядуць да ладу. А вось з моваю — бяда. І тут трэба ўпірацца, колькі ёсць сілаў”, — выказаў меркаванне Алесь Бяляцкі.



# КЛИМОВЧАНАМИ ГОРДЯТСЯ В БГУ

**Светлана ОСМОЛОВСКАЯ**

***Белорусский государственный университет является одним из лучших вузов СНГ, а также занимает неплохие позиции в мировом образовательном сообществе. В связи с этим поясним, что настоящее время в мире насчитывается около 30 тысяч различных университетов. В последние годы рейтинг БГУ устойчиво держится в первой тысяче вузов, что считается очень хорошим показателем. А среди университетов стран СНГ Белорусский государственный университет находится на четвёртом месте, пропустив вперед лишь три российских университета: Московский (МГУ), Санкт-Петербургский и Томский.***

Белорусский государственный университет сегодня — это более 7,5 тысячи работников, из которых две с половиной тысячи человек работают штатными преподавателями. Среди них можно назвать немало уроженцев Климовичского района.

Из преподавателей и учёных советского периода наиболее известны А.П. Игнатенко и С.В. Лузгина. Александр Петрович Игнатенко (родился в 1932 г. в деревне Студенец Климовичского района) — профессор, доктор исторических наук, много лет был заместителем декана исторического факультета БГУ. В 1990-1994 гг. заведующий кафедрой истории Белоруссии. Всего опубликовал около ста научных и учебно-методических работ, подготовил несколько сборников документов, три издания учебника «Древнерусский язык».

Профессор Светлана Васильевна Лузгина (родилась в 1939 г. в Климовичах) пришла в БГУ в 1962 году. На протяжении 20 лет (с 1979 по 1999 г.) возглавляла в университете кафедру английского языка естественных факультетов. Высококвалифицированный учёный-лингвист, опытный педагог, она также известна как автор многих учебных пособий для высшей и средней школы.

Среди современных преподавателей БГУ выделяется целая плеяда наших земляков, занимающихся фундаментальными научными проблемами. Это Ксенофонтов Михаил Александрович (родился в 1942 г. в Климовичах) — признанный в Беларуси и во всём мире учёный в области материаловедения полимерных материалов. Сейчас руководит лабораторией в Институте прикладных физических проблем БГУ. Доктор наук, автор 365 научных работ, награждён медалью Франциска Скорины.

В 1946 году в Климовичах родился Тимохович Владимир Леонидович. С 1970 года, ещё в юном возрасте, он стал сотрудником на кафедре геометрии математического факультета БГУ. С 1988 года и поныне является доцентом кафедры геометрии, топологии и методики преподавания математики механико-математического факультета БГУ. Кандидат физико-математических наук.

Ещё один кандидат физико-математических наук — Граков Валерий Ефимович (родился в 1938 г. в деревне Родня Климовичского района). Научные интересы: Атомная физика, физика газовых разрядов, физика плазмы. Преподаёт на физическом факультете БГУ курсы «Электричество и магнетизм», «Атомная и ядерная физика», «Физика атома и атомных явлений».

Всё это показывает, какой весомый вклад в укрепление престижа Белорусского государственного университета вносят сегодня наши выдающиеся земляки.

# ЗА ЧТО БЫ ЕЩЁ ВЗЯТЬ ДЕНЬГ И С ДОБРОПОРЯДОЧНЫХ И ЗАКОНОПОСЛУШНЫХ ЛЮДЕЙ?

**Данила МЕСТИЧ**

Власти неутомимо придумывают всё новые способы изъятия денег у населения. Приватизация жилья, штрафы за несогласованную установку антенн и кондиционеров, повышение платы за высшее образование, рост цен на хлеб, сахар и алкоголь… Подключили и защитников природы. Госинспекция охраны животного и растительного мира выступила за введение обязательной платы за рыбалку. Заместитель начальника инспекции Александр Дунькович ссылается на опыт европейских государств. То, что у белорусов совсем не европейские зарплаты, его не смущает. Проблем с введением платной рыбалки не будет: «Больше 90% населения Беларуси — добропорядочные и законопослушные люди».



# У П'ЯНЫХ КІРОЎЦАЎ БУДУЦЬ КАНФІСКОЎВАЦЬ МАШЫНЫ

Папраўкі ў некаторыя кодэксы РБ па пытаннях узмацнення мер адказнасці за кіраванне транспартным сродкам у стане ап'янення ўвойдуць у сілу гэтай восенню.

Паводле БЕЛТА, папраўкі дапускаюць змяненні арт. 61 Крымінальнага кодэкса, якія дазволяць прымяняць спецыяльную канфіскацыю транспартнага сродку, у тым ліку які не належыць самому п'янаму кіроўцу, у выпадках, калі заведзена справа па арт. 371-1 «Кіраванне транспартным сродкам асобай, якая знаходзіцца ў стане ап'янення, перадача кіравання транспартным сродкам такой асобе або адмаўленне ад праходжання праверкі (агляду)». Канфіскацыя не будзе датычыцца выпадкаў, калі аўтамабілем завалодалі ў выніку ўгону, самаўпраўства і г.д.

Пры гэтым маецца на ўвазе толькі канфіскацыя ў рамках крымінальнага заканадаўства. Гэта значыць, гаворка ідзе пра паўторны выпадак кіравання транспартам у стане ап'янення на працягу года. Што датычыцца КаАП, то ў гэтым кодэксе будуць значна павялічаны сумы штрафаў: з 15—35 базавых велічынь да 50—100.







# ЕЩЁ ОДИН СПОСОБ ЗАКРЕПЛЕНИЯ КАДРОВ

**Александр ВЛАД**

***Белорусская экономика испытывает всё более серьёзный дефицит кадров практически во всех отраслях народного хозяйства. Строители целыми бригадами выезжают в Россию, увольняются милиционеры и МЧСовцы, пустеют школы и больницы, а в сельском хозяйстве сейчас работает людей меньше, чем имеется бухгалтеров в стране. Осталось только наряду с Министерством сельского хозяйства создать ещё и Министерство бухгалтерии. Но вряд ли это остановит нарастающий кадровый голод.***

Власти в этой ситуации верны себе. По своему обыкновению они уверяют всех и вся, что трижды хвалёной стабильности ничего не угрожает. Но за многословными заверениями Мясниковича, Прокоповича, Ермаковой и других «экономических оракулов» уже прослеживается растерянность и сумятица. Они понимают, что обещаниями в очередной раз поднять заплаты кадровое истощение не остановить.

Хуже всего то, что для разрешения многочисленных проблем в кадровой сфере нет сегодня самого важного ресурса — времени. На обучение специалистов нужны годы, на формирование преемственности научно-технических элит — целое поколение. Эту непреложную закономерность не заменишь ни директивами, ни указами. Да и не верится, что у нынешних правителей вообще есть чувство времени, они не успевают осознавать, как стремительно меняется окружающий нашу страну мировой социум.

Но вернёмся ближе к реальности. Острота кадровых проблем особенно заметна в провинции. В Климовичском районе ежегодная убыль рабочих рук насчитывает уже сотни человек. В 2011 году численность занятых в экономике района составляла 11.639 человек, в 2012 — 11.317 человек, на май 2013 — 11.242 чел. Фактически можно говорить о том, что это дорабатывают до пенсии те, кто пришёл на предприятия и организации в советское время. Да и то, кто знает, сколько из них работает только потому, что сменить место не позволяет кабальный контракт.

В связи с этим поучителен следующий пример, рассказанный непосредственным участником нижеследующей истории. Специалист одного из агрохозяйств Климовичского района захотел сменить место работы. Его не отпускали, так как в хозяйстве не могли найти замену. А после и вовсе отказались это делать, так как с желающим уволиться был заключён контракт. Начались тяжбы, хождения по кабинетам, жалобы в соответствующие инстанции. И когда начальство дрогнуло и уже готово было согласиться на увольнение, последовал, как говорится, неожиданный поворот сюжета. Специалисту предъявили копию документа за подписью председателя Могилёвского облисполкома. Оказывается, в 2010 году было принято Распоряжение «О некоторых вопросах, связанных с закреплением кадров в сельскохозяйственных организациях области». В соответствии с этим документом председателям райисполкомов надлежало обеспечить процедуру письменного согласования с облисполкомом при назначении на должность и освобождении от должности главных специалистов ряда сельхозорганизаций.

Таким образом, даже если начальство и соблаговолило бы дать разрешение на увольнение, это не означало, что после этого специалист мог забрать свою трудовую книжку и сменить место работы. Освободить его от должности можно было только после согласования с заместителем председателя облисполкома, курирующим вопросы АПК. И очень легко предположить, как в Могилёве отнесутся к тому, что сельхозорганизации района собираются покинуть дефицитные специалисты. Сами посудите, зачем бы тогда принимались Распоряжения о закреплении кадров?

# ПОЛУСЕКРЕТНЫЙ БЮДЖЕТ
## Климовичские чиновники проявили чудеса оперативности

**Ирина БЕГАНКИНА, zapraudu.info**

***Прошло первое полугодие, а главный документ, определяющий жизнедеятельность народного хозяйства Климовичского района и его жителей в 2013 году, обнародован в местной районке совсем недавно.***

.Мы уже сообщали о том, насколько по-разному власти на местах относятся к открытости распределения финансов. В Климовичах решили пойти по нормальному пути, но для этого тамошним чиновникам понадобилось без малого полгода.

Лишь 29 июня в газете «Родная ніва» начали печатать решение Климовичского районного Совета депутатов «О районном бюджете на 2013 год». Необходимо отметить, что на сайте райисполкома, после неоднократных обращений климовичских активистов «Говори правду», информация о бюджете появилась в конце апреля. Однако в районной газете чиновники удосужились напечатать сведения о доходах и расходах района намного позже. Между тем, в небольших городах и сельской местности люди не так часто пользуются интернетом, по-прежнему отдавая предпочтение печатным изданиям. Невольно возникает вопрос: почему столько времени тянули с публикацией такого важного финансового документа, разве в нём содержится какая-нибудь секретная информация?

Самое интересное, что за это время, ещё до обнародования бюджета в газете, Климовичский райсовет уже успел два раза внести в него изменения.





# КРЫМ-ЭКСТРЫМ

Ясь ГАСПАДАР

***Прызнаюся: мы з сябрамі “падселі”, як наркаманы на іголку, на крымскія вандроўкі. Хапіла аднаго разу паехаць аўтаспынам на паўвыспу з турыстычнымі намётамі і спальнікамі — і ўзнікла амаль фізічная залежнасць у выглядзе нясцерпнага жадання зноў ірвануць у Крым. Аб нашых мінулагодніх уражаннях можна даведацца з матэрыяла, які друкаваўся ў “Клімавіцкай Інфа-Панараме” роўна год таму. І вось нечакана-незапланавана лета зноўку сарвала нам дах, а саміх нас – з месца, і давялося другі раз пакараць прасторы паўвыспы ў Чорным моры. Сёлета выпраўляліся ў падарожжа мы напрыканцы чэрвеня, удвох – хлопец з дзяўчынаю, з Клімавіч і Магілёва. Натуральна, зноў аўтаспынам і з намётамі – грошай і жадання парыцца ў цягніках і тырчаць у пансіянатах-санаторыях ну зусім не было.***



**КАПІТАЛІЗМ IN THE UKR**

Маючы пэўны досвед, невялікую частку шляху вырашылі праехаць прыгараднымі цягнікамі і аўтобусамі – так зручней, ды і кошт дэмакратычны. Аўтаспынам жа – большасць адлегласці, што раздзяляе нашыя балоты і паўднёвыя шыроты, праз усю Украіну.

Прыдарожны ўкраінскі сэрвіс заўсёды радуе і нават крыху шакіруе грамадзянаў Сінявокай, бо ў нас такога няма і пакуль не прадбачыцца. Ад фірмовых гламурна-навюткіх заправак з прыбіральнямі і дарагімі крамамі, па некалькі штук ледзь не на кожным скрыжаванні, да стыхійнага гандлю на збочыне шашы мёдам, капелюшамі, хатняй ежай, ракамі, рыбай, садавінай. У параўнанні з нашай непаўторнай мадэллю “рынкавай эканомікі” з чалавеччым абліччам, на блакітна-жоўтых прасторах пануе, як падалося, “дзікі капіталізм”. Усе зарабляюць, хто як можа, бо афіцыйнай, нармальна аплочваемай працы вельмі мала, многія прадпрыемствы пазачыняліся – на гэта нам скардзіліся ўсе сустрэчныя украінцы і асабліва крымчукі. А яшчэ – на паўсюдны крымінал і карупцыю. Самі мы з гэтым, на шчасце, пакуль не сутыкаліся.

А што датычыць украінскіх ДАІшнікаў – не хочацца крыўдзіць хлопцаў, але ДАІць яны сапраўды ўмеюць і робяць гэта часта і з вялікай ахвотай. Але нягледзячы на стыхійны капіталізм, украінцы падаліся нам у асноўнай масе гасціннымі і прыветнымі людзьмі. На трасе вясковыя дзядулі-гандляры пачаставалі нас смачнымі персікамі, мясцовыя жыхары бясплатна налівалі вады, усе сустрэчныя з ахвотай адказвалі на нашы пытанні геаграфічнага кшталту.

**ТУРЭЦКАЯ ГАСЦІННАСЦЬ**

Шчыра дзякуем усім спонсарам нашага падарожжа! Асабліва – туркамі, якія везлі палімеры з Беларусі і заадно падкінулі да поўдня Украіны нас, рамантыкаў з вялікай дарогі. Яны ехалі калонай, а потым падзяліліся. Спярша нас вёз балбатлівы, вясёлы Мехмед па мянушцы Чорны, аматар добрай выпіўкі і прыгожага полу, як шчыра прызнаўся ён сам. Гасцінны Мехмед па дарозе абзваніваў сваіх украінскіх сяброў, каб яны ў выпадку чаго бясплатна нас прытулілі, абагрэлі-накармілі (нейкім чынам нам удалося адбіцца). Шчодрую турэцкую душу мы спазналі яшчэ болей, калі перaселі ў фуру да яго сябра Ібрагіма, які частаваў гарбатай і ежай, паказваў каталогі з роварамі, усю дарогу вучыў нас турэцкай мове, а сам пры нашай дапамозе развучваў рускую і крыху беларускую. Ібрагім са скрухай уздыхаў пра тое, што рускія, украінцы і беларусы паціху співаюцца ў параўнанні з цвярозай Турцыяй. Дарэчы, нашым стасункам зусім не перашкаджаў моўны бар’ер – Ібрагім ведаў літаральна некалькі словаў пaангельску і яшчэ меней па-руску. А яшчэ ён аказаўся шчырым вернікам: спыняўся некалькі разоў за дзень для намазу – каб памаліцца сам-насам, такі ўжо мусульманскі закон.

Рэшту шляху да Крыма нам дапамог пераадолець Фёдаравіч – каларытны шыракаплечы дзядзька-кіроўца родам з Заходняй Украіны (пры гэтым ён прызнаваўся, што дужа не любіць “бандэраўцаў”, вось як). А яшчэ пасвяціў нас у таямніцы татарскага пытання ў Крыме. Невядома, як яно там насамрэч, але па словах Фёдаравіча, татарскае пытанне тут стаіць востра. Нібыта татары, якіх некалі выселіў адсюль Сталін, моцна ўзяліся за паўторнае засяленне паўвыспы, самавольна захопліваючы незаселеныя тэрыторыі, землі побач з вялікімі гарадамі і курортамі. Прычым з мэтай не столькі засялення, колькі для далейшай іх прыватызацыі і продажу. Па словах нашага кіроўцы, справа даходзіць да бандыцкіх разборак з перастрэлкамі, амаль як на Дзікім Захадзе, здараюцца канфлікты з новымі насельнікамі Крыма – пераважна расейцамі і украінцамі. Невядома, хто там мае рацыю – але Крым і яго жыхары паўсталі для нас ужо ў крыху іншым святле.

**У ГАСЦЯХ У ШЫВЫ**

Увечары другога дня нашай вандроўкі прызямляемся ў курортным горадзе Алушта. Адразу выпраўляемся да Ялты – на легендарным крымскім тралейбусе, які рушыць па звілістым маршруце па паўднёвым узбярэжжы Чорнага мора. Дарэчы, гэта самы даўгі тралейбусны маршрут у свеце, складае 86 кіламетраў.

Неўзабаве нас вітаў пасёлак Судак і мыс Меганом – самая высокая і містычная кропка Крыма. Суровы камяністы бераг, рай для дайвераў і аматараў папоўзаць па скалах. Мы раскінулі намёт у адной са шматлікіх ціхіх бухтачак – Жвіровай. Мора плешчацца





пад нагамі, крычаць бы марцовыя каты чайкі, гістэрычна трашчаць цыкады і г.д. Час тут сапраўды спыняецца, на душы становіцца невымоўна хораша і спакойна...

Паблізу ў гарах знаходзіцца алтар вялікага і грознага бога Шывы, якому прыносяць шмат дарункаў у выглядзе ўпрыгожванняў і іншай драбязы. А яшчэ там можна пабачыць кабет, што акупіравалі некалькі бухтачак для заняткаў ёгай пад кіраўніцтвам інструктараў. “Гламурныя цёткі, быдла-ёгі,” – здзекліва кідалі нашы новыя знаёмыя – піцерскія хлопцы, прыхільнікі больш экстрымальнага некамерцыйнага адпачынку. Дарэчы, Меганом лічыцца “месцам Сілы”, дужа прыдатным для розных духоўных практык – вось і медытуюць тут усе, і бык, і жаба...

Пабыўшы чатыры дні на Меганоме (яны падаліся нам цэлым месяцам бесклапотнага ціхага шчасця), мы рушылі да Казанціпскай затокі, на зусім іншы бераг паўвыспы.

**УСЕ КОЛЕРЫ “ВЯСЁЛКІ”**

І вось мы на Азоўскім моры – лагодным і пяшчотным, не дужа глыбокім і амаль прэсным, з мяккім жоўтым пясочкам і духмяным сасновым лесам адразу ля пляжа. Якраз тады там праходзіла легендарная “Вясёлка” – злёт усіх хіпі і іншых салідарных з імі нефармалаў Украіны (а таксама ўсіх ахвотных замежнікаў і касмапалітаў).

Варта сказаць колькі словаў пра гэтую самую “Вясёлку”. Запачаткаваўся гэты рух у ЗША ў 70-х гадах ХХ стагоддзя. “Вясёлка” – гэта альтэрнатыва масавай культуры гвалту і спажывання, капіталізму і медыя-засілля (так званаму ў адпаведным асяроддзі Вавілону). Назва – Сустрэча Плямёнаў Вясёлкі, калі цалкам – паходзіць з прароцтва індзейцаў хопі, якія прадказалі надыход утопіі пасля перыяду “хваробы” чалавецтва.

“Вясёлка” мае дзясяткі тысяч прыхільнікаў, у асноўным з асяроддзя хіпі. Ладзіцца яна па ўсім свеце, пачынаючы з 1972 года. Сярод нашых суседзяў праходзіць на Украіне, Расіі, а вось у Беларусі ладзілася толькі двойчы – не тая ў нашай аўтарытарнай краіне атмасфера, улады не дужа вітаюць такія нефармальныя злёты. Прыязджае сюды збольшага моладзь, Ёсць і людзі сярэдняга ўзросту, бацькі з дзецьмі. Шмат музыкаў, вандроўнікаў і проста ўнутрана вольных людзей.

Уявіце сабе месца, дзе жыве, хай і непрацяглы час, некалькі соцен добразычлівых, ветлівых і творчых прадстаўнікоў чалавецтва, кожны з якіх паважае не толькі сабе, але і іншых людзей, жывёл і раслін – карацей, усю прыроду. Па такіх вось прынцыпах, якія лічацца індзейскімі рытуаламі, наладжана жыццё і побыт на “Вясёлцы”. Ніхто не кідае, а наадварот, збірае смецце, не шуміць, не правакуе канфлікты, некалькі прыбіральняў абсталяваныя проста і экалагічна, на улонні прыроды. Не вітаецца камерцыя, гвалт, складаныя тэхнічныя прыборы, алкаголь і наркотыкі. Гэта ў ідэале – але на той “Вясёлцы”, дзе нам пашчасціла пабываць, усё прыблізна так і было.

Двойчы на дзень вясёлкавы народ збіраўся на “паў-ваў” – так завецца агульны сход ля вогнішча, з музыкай і пачастункам. Ежу тут гатуюць на ўсіх, харчы здабываюць каардынатары, усе жадаючыя дапамагаюць, скідваюцца грашыма (хаця, як падалося, усё адно найбольшы ўнёсак робяць некалькі самых ініцыятыўных чалавечкаў). Харчаванне смачнае і здаровае – салаты з гародніны для сыраедаў, кашы са смачнымі поліўкамі, супы. І ўсё гэта – веганскія прысмакі, без мяса, прыгатаваныя з добрым настроем і любоўю, пад пазітыўную музыку і спевы.

Кожны, хто валодае нейкім майстэрствам, можа праводзіць майстар-класы і семінары – хоць па пляценні фенечак, хоць па аўтаспыне. Сёлета папулярнасцю карысталіся семінары па халатропным дыханні (псіхалагічная практыка), славянскай жаночай гімнастыцы і ёзе, традыцыйных індыйскіх спевах і г.д. Была дзіцячая пляцоўка, дзе пад наглядам дарослых гуляла вясёлкавая дзятва – вельмі мілыя, разумныя і камунікабельныя дзеткі.

Нам пашэнціла патрапіць на вясёлкавае Купалле – сапраўднае, на сонцастаянне, у ноч з 23 на 24 чэрвеня. Усё ў лепшых традыцыях нашых продкаў – вялізнае вогнішча, шчыльнае кола радасных людзей, якія танчылі, вадзілі карагоды і купаліся ў моры. І ўсё гэта – пад дзівосныя, магічныя гукі барабанаў, флейт і іншых жывых інструментаў. Дарэчы, жывая музыка на “Вясёлцы” не сціхала, таксама дзяўчаты і хлопцы вельмі прыгожа спявалі індыйскія мантры і іншыя спевы на англіскай, рускай, украінскай мовах.Яшчэ адно свята адбылося праз пару дзён, на Поўню – “Фул мун”.

***Раставанне з гэтай вялікай і дружнай сям'ёй далося няпроста – мора і вясёлкавы пазітыў утрымлівалі нас дні чатыры, але адпачынак скончаўся. Муза далёкіх вандраванняў разварочвалася дадому перадам, да Крыму задам. Але той асаблівы настрой не адпускае дагэтуль, быццам кавалачак той “Вясёлкі” і крымскае паветра праніклі кудысьці ўсярэдзіну, глыбока-глыбока, і будуць яшчэ доўга каўтацца ў раёне дыяфрагмы, шчымліва нагадваючы пра сябе сярод шэрай беларускай руціны. Аж пакуль не пацягнуць у новае незабыўнае падарожжа...***





# В ПАВЛОВИЧАХ ИЗБАВИЛИСЬ ОТ ТЕХНИЧЕСКОЙ ВОДЫ

Александр ВЛАД

***Координатор кампании «Говори правду» по Климовичскому району Александр Балобин сообщил нашей газете, что жители деревни Павловичи всё-таки настояли на дополнительной очистке колодца с питьевой водой. Общественные активисты совместно с населением смогли добиться от местных властей выполнения своей просьбы.***

Активист и житель Павлович Александр Балобин уже передавал в Климовичский райисполком обращение по этому поводу. В нём говорилось о необходимости навести порядок с колодцем по улице Колхозной, так как были серьёзные опасения, что колодезная вода непригодна для использования.

В полученном ответе за подписью первого заместителя председателя Климовичского райисполкома А.П. Судиловского эти опасения полностью подтвердились. Извещалось, что вода в колодце не соответствуют требованиям СанНПиГН «Гигиенические требования к источникам нецентрализованного питьевого водоснабжения населения». И так как проведённые мероприятия по очистке улучшить состояние питьевой воды не помогли, жителям улицы Колхозной рекомендовали пользоваться водой только для технических нужд и для ведения личного подсобного хозяйства. В связи с этим на колодезный сруб была повешена предупредительная табличка «Техническая вода».

По словам Александра Балобина, люди практически сразу заявили, что будут продолжать добиваться окончательного решения проблемы с обеспечением нормальной питьевой водой. Видимо, районные власти также прекрасно понимали, что предложенный вариант с «технической водой» является не лучшим выходом из ситуации. Думается, что свою особую роль сыграла и растущая инициатива граждан, подтолкнувшая чиновников к действиям.

В Павловичи снова приехали работники «Коммунальника», которые провели дополнительную очистку и хлорирование колодца. А вскоре был получен ещё один ответ из райисполкома. Заместитель председателя Климовичского райисполкома А.В. Шапкин извещал жителей, что после мероприятий «по приведению в надлежащее состояние качества питьевой воды» она пригодна для питья и приготовления пищи.

Не лишне отметить, что одновременно был установлен крытый павильон на автобусной остановке и произведён ямочный ремонт дороги по улице Центральная. Как мы уже писали, об этом жители Павлович просили в других своих обращениях. Так что насущные проблемы всё-таки подлежат решению. Если, конечно, этого хотят сами люди.

# ДОБРАЯ СЛАВА МІКОЛЫ ГЛУЗДОВА

Трагічная нечаканая вестка пранеслася напрыканцы ліпеня па Клімавічах. Раптоўна памёр усім вядомы і ўсімі паважаны паэт і журналіст Мікола Глуздоў. Лепей за ўсё нам скажуць пра яго ўласныя вершы паэта:

***Як жа мне хочацца сёння ў паклоне схіліцца***
***Перад усімі, хто сэрца маё зразумеў.***
***Не, не хацелася б коўдрай няпраўды накрыцца,***
***Адгаварыцца: “Не чуў, не кахаў, не умеў”.***
***Гэта ж якая вялікая ўдзячная ноша —***
***Быць Чалавекам, не страціць сябе, не марнець.***
***Тупае дождж у нямодных вясковых галёшах,***
***Мне яго лёгка, свайго сябрука, зразумець.***

Мікалай Мікалаевіч Глуздоў нарадзіўся 31 кастрычніка 1952 года ў вёсцы Панкратаўка Горацкага раёна. Атрымаў гуманітарную адукацыю, закончыў два інстытута. Амаль 40 гадоў працаваў у Клімавіцкай раённай газеце, прайшоў шлях ад карэспандэнта да намесніка галоўнага рэдактара. Гэты просты, нават сціплы чалавек меў усе якасці творчай асобы, прыроджаны паэтычны талент. Ён ствараў вершы, быў знаёмы з гітарай і аўтарскай песняй. Вершаваныя словы суправаджалі Міколу Глуздова праз усё жыццё. Яны гучалі шчыра і праўдзіва, бо іх падказвалі паэтычнае сэрца, шчодрая душа і сумленне сапраўднага Чалавека. Таму вершы будуць чытаць, паэта — памятаць, а яго думкі і пачуцці застануцца з намі назаўжды.

***Добрая слава знянацку не прыйдзе —***
***Добрую славу патрэбна нажыць.***
***Добрую славу ніхто не пакрыўдзіць,***
***Добраю славай умей даражыць.***
***Гэта і дзеці твае, і суседзі,***
***Гэта зямля, на якой ты жывеш.***
***Сутнасць сваю вельмі проста разгледзець, —***
***Сутнасць у тым, што ты людзям нясеш.***

# СТАРИКИ БУДУТ РАБОТАТЬ ЗА МОЛОДЫХ?

Беларусь стремительно стареет. В некоторых регионах уже каждый третий житель является пенсионером. Что говорить, если даже несменяемый президент находится в предпенсионном возрасте. И проблема не только в малой рождаемости. Молодёжь уезжает из страны, так как не видит здесь для себя будущего. Не случайно в СМИ всё чаще встречаются красноречивые заголовки: «Через пять лет в Беларуси будет некому работать?» (Комсомольская правда – 19.6.2013). В Климовичском районе на начало года проживало 26.566 жителей. Из них 4.696 человек были моложе трудоспособного возраста, а 6.568 человек — старше трудоспособного возраста. Если сейчас на Климовщине стариков почти на две тысячи больше, то что будет дальше?







# ХАЛЯВА АД РАСІЙСКАГА ІВАНА

Аляксей КЛІМОВІЧ, svabodaby.net

***Ужо амаль два месяцы ў Навабеліцкім раённым судзе Гомеля судзяць грамадзяніна Расіі Яна Панчанку. Судзяць? Судзяць і ніяк засудзіць не могуць.***

**НА АГУЛЬНУЮ СУМУ 238 МІЛЬЁНАЎ**

Суддзя Сяргей Новікаў, які разглядае крымінальную справу ў дачыненні да расійца, нават не бярэцца прагназаваць, калі яна можа быць завершана. «Даслалі ў міліцыю спіс пацярпелых, якіх павінны прымусова даставіць у суд для сведчання па справе», — кажа суддзя.

Яна Панчанку вінавацяць у шматразовым махлярстве ў буйным памеры. Праз падман расіец угаворваў гамельчукоў браць у крэдыт мабільнікі, ноўтбукі, планшэты — і такім чынам падмануў многіх гараджанаў на дзесяткі мільёнаў рублёў. Следства зафіксавала 40 эпізодаў падману на агульную суму 238 мільёнаў, а пацярпелых у крымінальнай справе пра махлярства Панчанкі ажно 23 чалавекі — у Гомелі і Рэчыцы. Гамельчукі набралі ў крэдыт для расійскага грамадзяніна 10 ноўтбукаў, 6 планшэтаў, 19 мабільных тэлефонаў, тэлевізар LG і нават залаты ланцужок.

Следчы Дзмітры Сямкоў, які даследаваў "фінансава-крэдытную дзейнасць" расійскага грамадзяніна, лічыць, што ён уціраўся ў давер людзям падкрэслена ўважлівым стаўленнем, разнастайнымі падходамі. Часцяком гуляў на схільнасці сваіх ахвяраў да алкаголю. Нездарма цяпер частку пацярпелых трэба вышукваць міліцыі.

Віну сваю 38-гадовы ўраджэнец Калужскай вобласці Ян Панчанка, які ўжо адбываў у сябе на радзіме пакаранне за падобныя справы, у судзе не прызнаў і папрасіў дазволу даць сваё тлумачэнне пасля паказанняў пацярпелых. Выглядае, разумеў сітуацыю: наўрад ці міліцыя прыцягне за шкірку ў суд усіх пацярпелых.

**ВЫПІВАКАМ, ВЯДОМА, МІНІМАЛЬНА**

Адным з першых у судзе сведчыў жыхар Рэчыцы Уладзімір Смольскі. Да яго Панчанка двойчы прыязджаў па аб'яве ўвосень 2011 года, каб набыць ужываны аўтамабіль маркі «Форд». Забраць аўтамабіль забраў, а абяцаныя за яго 1000 доляраў так і не вярнуў. Падсудны Панчанка тлумачыў у судзе, што аўтамабіль зламаўся — і плаціць такую суму не было рацыі: «Дамовіліся, я напісаў распіску — унёс пашпартныя звесткі. Праз паўтара месяца я, здаецца, павінен быў разлічыцца. У сына Смольскага ўзяў тэлефоны — яго і бацькі. Прыехаў дадому. Яны патэлефанавалі мне вечарам: як даехаў? Здавалася, усё было нармальна. А раніцай пачаў выязджаць, машына не заводзіцца».

Праўдападобна, з гэтага эпізоду і пачалася бурлівая прадпрымальніцкая дзейнасць расійца, пік якой прыпаў на мінулагодняе лета. У ягоны нерат траплялі пераважна людзі, схільныя да выпіўкі альбо беспрацоўныя. Галоўнае, каб пашпарт у чалавека быў у парадку. Ян умеў пусціць пыл у вочы, увайсці ў давер як рэспектабельны чалавек з вялікімі сувязямі і фінансавымі магчымасцямі ў Расіі. Ён завёў у Навабеліцы сужыцельку, як цяпер кажуць, грамадзянскую жонку. Шмат каму абяцаў працу, вазіў нават пад Гомель на ўчастак капаць траншэю нібыта пад фундамент будучага свайго катэджу. Некаторым за ўзяты ў крэдыт мабільнік ці ноўтбук плаціў 50–200 тысяч рублёў — у залежнасці ад выгляду чалавека. Выпівакам, вядома, мінімальна.

**ГЭТА ВЫЛЕЗЕ БОКАМ**

Малады пацярпелы гамяльчук Андрэй апавёў: «Ён падыходзіў, сам знаёміўся. Пагалоска сярод людзей пайшла, што нармальны чалавек, завуць Іванам. А насамрэч ён — Панчанка Ян Васільевіч. Ён падышоў, пагутарыў па-чалавечы: буду плаціць! Адрас даў свой, дзе на той момант жыў – ну, кватэру сваёй сужыцелькі. Мы падыходзілі да пад'езда, ён жонку клікаў. Напаказ, вядома. Потым прапаноўваў: «Ты ў растэрміноўку афармляеш тэлефон — я табе заплачу за гэта 200 тысяч. Крэдытныя чэкі буду поўнасцю аплачваць. А ў выніку я атрымаў праз тры месяцы з банку ліст, што ў мяне запазычанасць».



Пенсіянерка Люба сплачвае цяпер крэдыт за сына, які патрапіў на кручок Яна, набыўшы для яго мабільнік і планшэт: «У яго тэлефон — 4 мільёны 870 тысяч і планшэт — 4 мільёны 800 тысяч з лішкам. Агулам у межах дзесяці мільёнаў. Зараз яшчэ працэнты ўключылі — ужо 12 мільёнаў. Раней плаціла 520 тысяч на месяц, а цяпер — 720 тысяч. Мне ж дадому прыйшлі паперы, і я плачу, бо інакш судовы выканаўца прыйдзе і апіша маю маёмасць, якую я нажывала крывавым мазалём. Сын жа ў мяне прапісаны! Мне шкада, калі маёмасць забяруць, таму я і сплачваю крэдыт. А пенсія ў мяне — паўтара мільёна. Я яму галаву адсекла б за такое махлярства. Ён думаў, што гэтым разжывецца — прастакоў абдурыў і думаў, што разжывецца. Гэта бокам вылезе».

**ПРОСТА «ЖЭСЦЬ»**

Мужчына сярэдніх гадоў, які назваўся Ігарам, падман самога сябе патлумачыў проста: «Хацеў выпіць, а грошай не было. Ян даў мне халяўных 200 тысяч, а я ўзяў яму крэдыт. Аказалася, што сабе».

Дваццацічатырохгадовы гамяльчук Ілля аформіў на сябе цэлых пяць крэдытаў — усе на пакупку для Панчанкі не толькі тэлефона, ноўтбука, але і тэлевізара, і нават залатога ланцужка: «Гэта мая памылка. Мне трэба было ўжо пасля першага ці другога крэдыту сказаць: «Ванечка, хопіць! Вот заплаціш, тады будзем думаць пра новы крэдыт». Але ён настолькі ўмеў пераконваць, настолькі ён прафесійны падманшчык, што проста «жэсць». Пры маім месячным заробку каля трох мільёнаў, я мусеў напачатку аддаваць за крэдыты 2 мільёны 300 тысяч. Я ж просты чалавек, я імкнуся ўсімі сіламі зарабіць сваю капейку, нікога не падмануць, нікому не зрабіць балюча».

Даверлівых гамельчукоў уразіла і яшчэ адна акалічнасць у паводзінах заезджага камбінатара: ён чытаў Евангелле, ці проста рабіў выгляд, што чытае. Гэта таксама падкупала.

Ілля расказаў, што падчас вочных ставак Іван-Ян стараўся нікога са сваіх ахвяраў не пазнаваць альбо нахабна смяяўся ім у твар.





# ИЗНАСИЛОВАННАЯ ПОЛУЧИЛА СРОК БОЛЬШЕ, ЧЕМ НАСИЛЬНИК

***К тюремному заключению была приговорена в Объединенных Арабских Эмиратах гражданка Норвегии, заявившая в полицию об изнасиловании. По данным NEWSru.com, в ходе судебного разбирательства и ей, и насильнику были предъявлены обвинения. Она за «внебрачный секс» и «употребление алкоголя» получила 16 месяцев, насильник — 13 месяцев.***

Инцидент с 24-летним дизайнером из Норвегии Марте Далелв произошёл в марте 2013 года. По её словам, находясь в командировке в Дубае, она подверглась насилию. Когда женщина подала в полицию ОАЭ заявление о нападении, её обвинили во внебрачных интимных отношениях, употреблении алкоголя и лжесвидетельстве. В связи с этим "Русская служба BBC" напоминает, что по действующим в Объединенных Арабских Эмиратах законам, чтобы доказать факт изнасилования, необходимо признание самого виновного или свидетельство четырёх взрослых мужчин.

Далелв намерена обжаловать приговор. Дипломатам удалось добиться её перевода из тюрьмы, и с тех пор она живет под защитой норвежского религиозно-культурного центра Seamans в Дубае. Приговор суда вызвал резкую критику правозащитных организаций.

# НОВАЯ УСЛУГА — «СМС – ИНФОРМИРОВАНИЕ»

Вот что сообщает сайт УВД облисполкома. В подразделениях по гражданству и миграции органов внутренних дел области с 1 июля текущего года оказывается услуга по информированию граждан посредством SMS-сообщения на мобильный телефон о готовности документа к выдаче (паспорта гражданина Республики Беларусь, вида на жительство в Республике Беларусь, проездного документа). Стоимость услуги 1 000 рублей за сообщение.

Для оказания услуги по SMS-информированию необходимо в заявлении на выдачу (обмен) соответствующего документа указать полный номер мобильного телефона (+375*********), на который будет доставлено сообщение, и предоставить квитанцию об оплате услуги.

Реквизиты внебюджетного счёта УВД Могилевского облисполкома, открытого для оплаты услуги SMS-информирования:

р/с 3632900004377 в фил.№700 МОУ ОАО «АСБ Беларусбанк» код 536

адрес банка: г.Могилев ул.Первомайская, 71А

УНП 700191986

Управление по гражданству и миграции УВД Могоблисполкома сообщает, что в случае нахождения телефона заявителя вне зоны досягаемости и/или в случае сбоев сети операторов мобильной связи, а также использования несертифицированного оборудования доставка вышеуказанного сообщения не гарантирована.

### ІНТЭРНЭТ-БІБЛІЯТЭКА KAMUNIKAT.ORG: БОЛЬШ ЗА 13 000 БЕЛАРУСКІХ ВЫДАННЯЎ

Праект “Беларуская інтэрнэт-бібліятэка Kamunikat.org”, які рэалізуе Беларускае гістарычнае таварыства, існуе з 2000 году і арыентаваны на збор незалежных беларускіх выданняў. На сайце www.kamunikat.org можна знайсці кнігі, газеты, аўдыё і відэа. Усяго размешчана больш за 13 000 розных беларускіх выданняў. А ў раздзеле “Перыёдыка” знаходзяцца ўсе нумары “Клімавіцкай Інфа-Панарамы” за 2012 год.



kamunikat

## АНЕКДОТ СО СМЫСЛОМ

Посетитель пришёл в парикмахерскую. Салфетки грязные, горячей воды нет, бритва тупая, стул под ним рухнул.

— Безобразие! Что за парикмахерская?! Я добьюсь, чтобы здесь всё поменяли, всё!

— Парикмахер: «Послушайте, Вам работа Ваша нравится?»

— Посетитель: «С такой зарплатой? Конечно, нет!»

— Парикмахер: «А правительство наше нравится?»

— Посетитель: «Да их всех поувольнять нужно!!!»

— Парикмахер: «Тогда почему Вы начали именно с моей парикмахерской?».

# СЕБЕ НА ХВАЛУ, ЛЮДЯМ НА ПОГЛЯДЕНЬЕ

Данила МЕСТИЧ

Любому человеку присуща внутренняя тяга к красоте. Стремление к ней может проявляться по-разному, но в основе всегда лежит желание выйти за пределы привычной обыденности, стать иным, выделиться и обратить на себя внимание. Чувство прекрасного проявляется даже в такой незамысловатой вещи, как надомные таблички с адресами. С их помощью можно украсить своё жилище, намекнув при этом, что у хозяина дома умелые руки.






КЛІМАВІЦКАЯ ІНФА-ПАНАРАМА

*Клімавіцкі грамадска-палітычны бюлетэнь*
*Адказны за выпуск: Аржанцаў Сяргей Юр'евіч*
*Адрас: Клімавічы, вул. Леніна, д. 27а, кв.15.*
*Надрукавана на ўласным абсталяванні. Наклад 299 асобнікаў*
*Распаўсюджваецца бясплатна*